# НАВІНКІ

28 красавіка - 10 мая 2000 №8(30) Кошт свабодны



# Дойдзем да Варвашэні!



Сьцяг Перамогі над Управай.

Што значыць для нас 9 мая? Як успрымае гэтае сьвята большасьць нашых суграмадзянаў? Гэтыя пытаньні, зь першага погляду банальныя, на самой справе вельмі цікавыя.

Таня Чараднічэнка – гуру расейскай культуралёгіі – у сваім папулярным эсэ «Тыпалёгія савецкай масавай культуры» (М., 1995) паспрабавала вызначыць функцыянальную ролю Вялікай Айчыннай у пасьляваенным грамадзтве. На яе думку, зь якой цяжка не пагадзіцца, кампанія 1941-45 стала сродкам самаідэнтыфікацыі саўка. Людзі, якія перажылі ВАВ, або прашлі праз пасьляваенны дыскамфорт, атрымалі такую эмацыйную прышчэпку, што сталі ўспрымаць вайну як знакавую падзею ў сваім жыцьці (савецкі гіпэртэкст). Камуністычнай эліце заставалася толькі спэкуляваць на гэтых пачуцьцях, гарантуючы для сябе стабільнасьць рэпрадукцыі сацыяльна-эканамічных дачыненьняў.

На думку Чараднічэнка, каляпс СССР стаў сьледзтвам зьяўленьня маладых людзей, якія не былі ангажаваныя на эмацыйным узроўні ў міт пра Вялікую перамогу. Мэмуары вэтэранаў выклікаюць у салаг патэтычную нуду і багахульны сарказм кшталту непрыстойнай загадкі: «Хто такі – па лесе паўзе, шышкі грызе» (адказ: Мярэсьеў). Неўпісаныя ў фрэймы саўковай культуры, падлеткі сталі культурнымі ізгоямі (хіпі, панкі і г.д.), а зь цягам часу – дэтанатарам дэструктыўных палітычных працэсаў у савецкім грамадзтве.

Сёньня тыя ж тэндэнцыі пагражаюць устрэсьці П'емонт славянскага адзінства – Беларусь. Гамагеннасьць лукашэнкаўскага электарату будуецца на фэтышы Перамогі, што для юных беларусаў - рэч абстрактная. Нямеччына для тынэйджэраў асацыюецца зьбольшага не з шызанутым вэгетарыянцам-фюрэрам, а зь півам «Хольстэн» і футбольным клюбам «Баварыя».

Інтэграваць моладзь у арбіту лукашэнкаўскай аксэялёгіі – значыць мадэрнізаваць (лепей сказаць, «затынэйджэрыць») батальныя кліпы Бандарчука. У 60-ыя падобны трюк адкалоў Мао Цзэ Дун, дазволіўшы зялёным хунвэйбінам мачыць прафэсуру і бюракратаў. Угар культурнай рэвалюцыі адцягнуў спазмы КПК да пачатку 80-ых.

Чаму б і беларускаму прэзыдэнту не адцягнуць свой канец? Дапамагчы ў гэтай справе дзяржаўным мужам павінны апазыцыйныя скамарохі, якія штогод у раёне майскіх сьвятаў заварачваюць свае карагоды. Чарговы крах плянаў дэмшарлатанаў трэба падаваць як рэтраспэктыву вялікай Перамогі! Як у фільме «Хвост, які віляе сабакам», нам дапамогуць кампутарныя эфэкты і пі-ар, пі-ар, шмат сочнага пі-ару.

Інтрадукцыяй да 9 мая павінна стаць, напрыклад, 14 лютага – дзень, калі апазыцыя без абвяшчэньня вайны (санкцыі гарвыканкаму) выводзіць народ на «Гарачую вясну» (бліцкрыг). Хіба гэта не вераломства! Уся краіна ўстае на бой зь цёмнай сілай. Пачатак кожнай вылазкі апазыцыі можа абвяшчаць ерыхонскі вой сырэнаў, з боку Бангалора цягнецца караван бежанцаў (у арэоле акцыі – пагалоўная эвакуацыя і мабілізацыя). Па заканчэньні дэманстрацыі – абавязковы салют і жалезны квазі-левітанаўскі голас Казіяткі ў «Панараме»: «Ад нашага інформбюро! Сёньня ў выніку цяжкіх і крывапралітных баёў нашы войскі вызвалілі ад апазыцыянэраў вуліцы Пуліхава, Першамайскую, Захарава і стратэгічны чыгуначны вузел – станцыю мэтро Якуба Коласа!..»

Саплівае ток-шоў на «Радыё-Стыль» пра подзьвіг бэпээсэмаўца, які загінуў на дыбе, аднак не пагадзіўся выракчыся ад сяброўства ў БПСМ. Нарэшце, доўгачаканы вялікі пералом. Каля філярмоніі акружаныя і разьбітыя калёны праціўніка. Пачатак мая сымбалічны штурм сядзібы (Рэйхстагу) на Варвашені-8 з абавязковымі графіці – «дайшлі да ўправы». Вячорка падпісвае акт аб капітуляцыі і – вось ён, марш пераможцаў 9 мая на плошчы Незалежнасьці. Бел-чырвона-белыя харугвы ляцяць пад сьцены Рэзыдэнцыі Прэзыдэнта. Усенародная радасьць ня ведае межаў. Сьлёзы на вачах.

## Што было б з намі, каб нашыя дзяды не перамаглі?

Die Navinki

Seiten 4-5

*Парад Перамогі напалохаў заходніх назіральнікаў*

Стар.2

## ПСЫХАГЕАГРАФІЧНАЯ ГУЛЬНЯ



СТАР. 8

Тое-сёе з жыцьця выбітнай журналісткі Каці Пранік.

Стар.3



Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@user.unibel.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 9.05.2000 г., а 02.01. Тыраж 10100 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў заказчыка на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная Зорка» ВПП імя Я.Коласа, г. Менск, 1-ы Загарадны зав., 3. Заказ №1620

## *ІнтурЫзм*

### Новыя парадкі зь візамі

«Ваш турыст – наш турыст!» – так інтэрпрэтавалі інтэграцыйныя працэсы беларускія работнікі АВІР, увёўшы ў красавіку транзытныя візы для замежных грамадзянаў. Цяпер каб наведаць Дзікі Ўсход, ім трэба набываць дзьве візы: расейскую і белтранзыт. Аднак тупыя буржуіны чамусьці імкнуцца зрабіць крук, чым за памяркоўную плату наведаць «у нагрузку» й нашу краіну. Розумам Эўропу не паняць...




# Конанаў ці Кротаў?

## Хто ён насамрэч: савецкі партызан ці здраднік-калябарант?

Напярэдадні 55-ай гадавіны рэдакцыя *Навінак* вывела на чыстую ваду шпіёна.

Галоўнае ў такой справе – патрыятычная пільнасьць, якую мы адтачылі яшчэ за партай, запоем мусолячы старонкі «Мальчыша-кібальчыша». Перабудова перапахала пласты дзіцячай душы, аднак шпіёнаманскія амбіцыі не пажухлі. Быў позьні красавіцкі вечар 2000 году. Выдзяляючы патрыятычны адрэналін, уся краіна глядзела сусальны рэпартаж з Рыгі. Былы партызан Васіль Конанаў трыюмфальна выходзіў з рыскага таўэру. Ён салютаваў сябрам, раздаваў інтэрвію, быццам той Кіркораў, братаўся з расейскамоўнымі латышамі. А потым, не паверыце, адбылося нешта жудаснае. Кражысты, сівы Конанаў прыйшоў у амбасаду РФ і благагавейна залабызаў двухгаловага арла на расейскім пашпарце, які яму адаў амбасадарскі клерк.

Наш натрэніраваны патрыятычны нюх адразу адчуў нешта паранармальнае. Гэтага ня можа быць – былы савецкі партызан сьлінявіць сымболіку ўласаўцаў! У мазгах закруціўся дэдуктыўны ланцужок: Конанаў – ня Конанаў. Партызанства – рысоўка. Толькі калябарант можа з такім імпэтам аддаваць павагу сымболіцы РОА (Расейскага Вызвольнага Войска), якая паўстагодзьдзі таму зрывала на партызанах свае квазі-арыйскія комплексы. Памятаеце блокбастэр 80-ых «Супрацьстаяньне» пра заіку Кротава, былога ўласаўца, які пад канец вайны замачыў камсюка ды ўзяў ягоную ксіву, закасіўшы пад партызана-франтавіка? Па ўсім відаць, псэўда-Конанаў – з той жа кротаўскай шайкі! Натуральна, яго прэ быць грамадзянінам Расеі, дзе санкцыянавана прыватная ўласнасьць, легалізаваны дзянікінскі штандарт, перасьледуецца справа Леніна-Сталіна – адным словам, амаль рэалізаваная праграма калябаранта Ўласава. Цяпер зразумела, чаму латвійскія эсэсаўцы далі Конанаву вольную: «воран ворану вока ня выклюе». Акрамя таго, прыбалтыйская «ахранка» відавочна разьлівала закінуць у вэтэранскія тусоўкі свайго агента. Ня выйдзе!

**Марта Рудзіціс**

# Гуляньне працоўнымі мускуламі

## *Беларускі Парад Перамогі вачыма заходняга барзапісца*

«Better dead than red» (лепш быць мерцьвяком, чым чырвоным) – гэтак казалі нашыя дзяды, адпраўляючыся ў крыжовы паход супраць бальшавізму на палі Паўночнай Карэі або ў джунглі Віетнаму. Сёньня спрадвечная дактрына янкі павінна быць падкарэктавана праз прызму аднаполюснага сьвету: «Better dead than green-red» (лепш загінуць, чым стаць чырвона-зялёным).

Вайсковы парад, прысьвечаны Дню перамогі, што прайшоў 9 мая ў беларускай сталіцы, стаў наглядней дэманстрацыяй ваеннага патэнцыялу РБ, мабілізацыі ўсяго беларускага грамадзтва супраць новых геапалітычных рэаліяў. Усьлед салдатам і БМП пад шматзначную ўсьмешку Прэзыдэнта Лукашэнкі па плошчы ідуць трактары, аўтобусы, сьмецьцевыя машыны, каткі... Падтэкст пэрфомансу зразумелы: калі заўтра вайна, калі заўтра ў паход, то ўся гэта бытавая і камунальная тэхніка можа быць кінутая на заходні фронт, каб уцюжыць на хлопкавых плянтацыях Алабамы і Паўднёвай Дакоты каўбояў і мірных нэграў.

У сьвяточных калёнах – студэнты, школьнікі, валейбалісты і качкі-фізкультурнікі. У мяне, пратаганіста нэалібэралізму і глябалізацыі, затрусіліся паджылкі, калі я пабачыў біцэпсы і трыцэпсы беларускіх атлетаў. Атрымаць вось такой тэніснай ракеткай ніжэй пэйджэру – гэта, я вам скажу, гарантаваная капітуляцыя.

І ўсё ж ня так усё добра ў стане славянскіх фрыкаў. Другая частка параду, што павінна была экспанаваць стан сацыяльнай гармоніі ў Беларусі, відавочна кульгала. Прадстаўнікі далёка ня ўсіх клясаў беларускага грамадзтва чыканілі крок па асфальце плошчы Незалежнасьці. Я так і не дачакаўся калёны бізнэсмэнаў з сотавікамі або бандытаў з валынамі. Не відаць было й бамжоў з авоськамі і пустымі бутэлькамі. Гэта дастаткова прадстаўнічыя слаі сёньняшняга соцыюму, без падтрымкі якіх выстаяць у канфлікце з NATO Беларусі будзе вельмі і вельмі цяжка. Аднак гэта не павінна расслабляць сьвет. Менск – вэрсія імпэрыі зла (Саўгас зла), якая жыве ў каардынатах бальшавіцкіх фантомаў шматполюснага сьвету

**Джон Голдуотэр**
*Washington Post*




# Непрыглядны твар чужыны

## *Пуцёвыя нататкі патэнцыйнага «ўпырхліка»*

Усё часьцей ды часьцей у апазыцыйных СМІ мільгае слова «Чэхія». Маўляў, у Чэхіі сёе, у Чэхіі тое. І кормяць там добра, і піва таннае... Дзіва што, беларускіх упырхлікаў (уцекачоў па-нашаму) у Чэхіі накопліваецца ўсё болей. Сеў і я ў аўтобус Менск-Прага, каб на месцы разабрацца што да чаго...

Вядома ж, у Празе было ў два разы больш цёпла й сонечна за Менск. Першы, каго я сустрэў на аўтавакзале Флоранс, быў беларускі ўпырхлік: старшыня выканаўчага камітэту беларускай Партыі Аматараў Піва, былы кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, паэт і прадпрымальнік Сяржук Г. Спадар Г. дзелавіта перагружаў з багажнага адсеку аўтобусу ў свой «мэрсэдэс» перадачку з радзімы: «крышталёўскую» гарэлку, сала, квашаную капусту, свэйскія грыбочкі. Раптам Сяржук спахмурнеў і вынуў з скуранкі сотавік. Праз хвіліну палова Прагі чула ягоны гучны голас: «Казлы, я ж прасіў яшчэ гуркоў, тут жа такое гаўно робяць!» Раптам Г. заўважыў мяне: «А, і ты здавацца прыехаў, сядай, падвязу да лягеру». Я прамармытаў у тым сэнсе, што я толькі ў госьці прыехаў. «Да каго?» – «Да беларусаў», – адказваю. «Пляшку прывез? Тады да мяне паехалі. Бухаць!», – загадным тонам гыркнуў палітэмігрант. Пакуль ехалі ў Бэроўн (курорт непадалёк ад Прагі), разганяючы старыя «шкоды» й «трабанты», спадар Г. намаляваў мне карціну эміграцкага жыцьця ў Чэхіі. Беларускія ўпырхлікі жывуць у маёнтках, п'юць дарагія напоі і трахаюць супэрмадэлек. «А хто ж працуе?» – пытаю. «Нэгры працуюць». – «Зь лягероў для ўцекачоў бярэце?» – «Ды не, – абураецца Г. – «кнэдлікі» працуюць, «швэйкі». Чэхі значыць».

> ***Беларускія «палітычныя эмігранты» няблага ўладкаваліся ў Чэхіі, разьвёўшы Гаўла на ўспамогі.***

Паркінг перад маёнткам спадара Г. быў застаўлены дарагімі аўто. Мне пашанцавала: я патрапіў на сходку беларускіх упырхлікаў Чэхіі. Сярод прысутных я заўважыў партактыў беларускіх аматараў піва, «навінкаўцаў» ды рэгіянальных палітычных адмарозкаў. Верабей, Пацук, Абдула, Мюлер... Шэраг знаных менскіх аўтарытэтаў. Размаўлялі ў асноўным пра кансалтынгі, холдынгі, акцыі, аўдыт і іншую падобную трасцу. А яшчэ спадары з дыямэнтамі на пярсьцёнках часам жаліліся, што неўзабаве трэба ехаць да табару (лягеру), каб паставіць штампік у аўсвайсе азылянта, а затым вяртацца да ўсіх дзялоў.

Паўстала здаровае пытаньне – скуль зарабляюцца шалёныя грошы? Высьветлілася, што я патрапіў на абмеркаваньне чарговай фінансавай апэрацыі. Вялося пра буйны палітычны шантаж. Дамаўляліся зь Менскам арганізаваць вывад ста тысячаў апазыцыйных дэманстрантаў да чэскай мяжы. Распрацоўвалі дэталі дарогі – усё трэба было зрабіць незаўважна. Таксама абмяркоўвалі колькі лімонаў баксаў зьняць з Чэхаў (усё адно ня іхныя – нямецкія). Чэхі былі прапаноўвалі бартэр: разбашляцца з упырхлікамі не грашыма, а працаднямі чэскіх грамадзянаў. Але прапанова была з абурэньнем адрынутая: працавітасьць чэхаў не перавышае энтузіязму калгасьніка з «Запаветаў Ільіча».

Цягам сходкі было выпіта дужа многа. Але, калі я даведаўся пра колькасьць нулёў прыбытку на рыла, я на хвіліну зрабіўся цалкам цьвярозым. Як увайсьці ў долю? Каб зрабіцца сапраўдным мацёрым (злым) упырхлікам, трэба здацца, адседзець месяц у лягеры на карантыне, прайсьці доўгае інтэрвію з прыстрасьцем, пабіцца з сотняй шры-ланкійцаў, выпаліць пуд анашы, сыграць тысячу партыяў у «тысячу» і назьбіраць фуру піўных пляшак. У залежнасьці ад абставінаў, усё гэта забірае ад паловы да двух гадоў. І тады: Welcome to the elit club! Ты ўпырхлік у законе.

...Я вярнуўся ў Прагу ледзь стоячы на нагах. На вакзале мяне пяшчотна ўзялі пад рукі паліцыянты і правадзілі да гатэлю. А хто ж мяне ведае — калі забраць да пастарунку, я ж і на азыль здацца магу, а на адкупныя ў паліцыянтаў грошаў няма. Так і жывуць

**Мар'ян Азылька**

# «Дрэва дэмакратыі» перасадзілі ў «зону»



Разьлік кіраўніка краіны безумоўна верны: на ўрадлівай брагінскай зямлі, абільна ўгноенай радыянуклідамі, будзе самае месца ўсякаму «Дрэву дэмакратыі».

Гісторыя з пасадкай «Дрэва дэмакратыі» (*Навінкі,* №7) атрымала нечаканы працяг. Сябры Маладога Фронту, прыйшоўшы неяк паліць і прапалоць свой саджанец, знайшлі на месцы «цуда-дрэва» пустую ямку.

Хто ж зьдзейсьніў акт вандалізму і глумленьня над дэмакратычнымі ідэаламі? Адказ быў хутка знойдзены. Падчас свайго візыту ў радыяактыўна забруджаную зону Прэзыдэнт А.Лукашэнка пасадзіў у Брагіне... тую самую эмэфаўскую аглоблю! Відаць, на «версе» вырашылі: дрэва муціруе і будзе сымбалізаваць «наша бачаньне дэмакратыі і прэзыдэнта ў ёй»

**Павал Садоўскі**

# Шматаблічны Янус Якубовіч

## Пікантныя падрабязнасьці з жыцьця галоўнага рэдактара адной салідмай беларускай газэты

### КамэнтАр да тЭксту

### «Здравствуйте, я ваша редакторша»?

Стракатыя ліфчыкі, карункавыя панчошкі, празрыстыя пэньюары... Убачыць гэтыя і іншыя прадметы жаночага туалету ў кабінэце галоўнага рэдактара *Саўбелкі* Паўлюка Я.-Кубэ – звычайная справа. Не пужайцеся за маральнае аблічча плацінавага пяра прэзыдэнцкай адміністрацыі. Ён верны жонцы як сабака Баскервіляў сэру Генры. Дый праблемы полавай самаідэнтыфікацыі тут ні пры чым. Проста ён, як і ўсе прадзьвінутыя культурныя дзеячы сучаснасьці, адкрыў у сабе другое сэксуальнае alter ego. Другую натуру «бязроднага бедуіна» завуць Кацярына Зотаўна Пранік. Пад гэтым псэўданімам сп.Я.-Кубэ рэгулярна крапае артыкулы ў сваё беларускае «Жэньмінь Жыбао». Ужываючыся ў вобраз мадам Пранік, ён ня ведае лімітаў: яму здаецца, што фігура ў яго 90-60-90, што рэдактар *БДГ* Марцаў толькі і наравіць ушчыпнуць яго за пругкую ружовую ягадзіцу, нарэшце, што ён – высакародная лэдзі або ўвогуле шматдзетная матка (гл. артыкул побач). А яшчэ кажуць, што па начах яму (ёй?) сьніцца, як ён (яна?) зарываецца пульхнымі грудзямі ў пухнатыя вусы Самога.

**ДОННА РОЗА ДАЛЬВАДОРЭС**
(ПЕР. З БРАЗЫЛЬСКАЙ)

### «Яшчэ раз пра карысьць добрага тону»

Мудрыя кітайцы кажуць, што самае страшнае – згубіць твар. Трапна заўважана. Шмат гадоў я вадзіла дружбу зь менскім літаратарам Сямёнам Букчыным. Сустракаліся, варкавалі, інтыму, праўда, не было – я дама строгіх правілаў. Потым між намі прабегла чорная кошка. Бывае. Шкада толькі, што ў майго былога сябручка аказаўся цяжкі характар. Па прашэсьці пэўнага часу Сеня пачаў узмоцнена карэспандаваць у розных газэтах аб розных тонкіх нюансах нашых дачыненьняў.

І хаця галянтнага кавалера гэта не ўпрыгожвала, я напачатку ня крыўдзілася. Па-першае, мілыя сварацца – толькі цешацца, па-другое, я як ніхто ведаю, што на самой справе Сеня – чалавек душэўны і публічна зьверствуе выключна ў развазе ганарару.

Але нядаўна Сеню занесла, і я ня здолела прамаўчаць. Вельмі тактоўна, як і мае быць лэдзі, я зьвярнула ягоную ўвагу на некаторую неахайнасьць віршу ў дачыненьні рэчаў вельмі сур'ёзных. Нават у параўнаньні з ганарарам:

Сенева рэакцыя ўзрушыла мяне да глыбіні душы. Ён накінуўся на мяне, як Трыстан на Ізольду...

Як толькі ні абразіў мяне Сеня ў адной газэце! Фі-і! Але ўсё, што я магу сказаць на гэты конт, дык хіба што: «Сенечка, астудзіся, не выражайся. Ты ж інтэлігент. Выхаваныя хлопчыкі гэтак сябе не паводзяць».



Што да рэдактараў, якія не напружыліся выбрудзіць вытанчаныя пэрлы кшталту «дерьмо», «б...» з тэксту свайго аўтара, які відавочна ўвайшоў у рэактыўны стан, то ў мяне як жанчыны і маці зьявілася трывога: можа яны стамляюцца на працы і не разумеюць, што дзьвюма нагамі сталі на творчую сьцяжынку, здольную ператварыць нават добрую газэту ў банальную сьметню? ●

**КАЦЯ ПРАНІК**
*СОВЕТСКАЯ БЕЛОРУССИЯ*
ЗА 8.04.2000 Г.

### Плян выкананы!

Велізарнай радасьцю для органаў правапарадку скончылася Сьвята гораду ў горадзе-герої Менску. Сьпяшаемся супакоіць чытачоў: міліцыя ня толькі не адпачывала, але працавала ў поце твару. Напрацягу 8-9 мая ў мянтуру загрымела каля 200 чалавек! Зь іх сабрана месячная норма збораў за рознага кшталту «парушэньні грамадзкага парадку»!!!

Для таго, каб дасягнуць такіх посьпехаў, прыйшлося пайсьці на хітрасьць. Спачатку грамадзянаў справакавалі патраціць свае грошыкі на рознага кшталту ўвесяляльныя мерапрыемствы: піва й гарэлка на разьліў, фатаграфаваньне на фоне зямлянак і гармат, расходы на таксі, каб дабрацца з блякаванага цэнтру дахаты і г.д. Каб пратрымаць публіку падалей у цэнтры нават прыдумалі зрабіць 9 мая эрзац-салют. А потым, цёпленькіх, разгарачаных сьпіртным грамадзянаў культурна праводзілі ў пастарунак і складалі пратакол за пратаколам.

Гэта сапраўды вялікая падмога краіне, улічваючы й той вядомы факт, што зборы ад штрафаў уведзеныя асобным радком у даходную частку бюджэту.

Цяпер супрацоўнікам міліцыі, якія вызначыліся на антыалькагольнай апэрацыі, будуць выдадзеныя прэміі й ганаровыя граматы.

*«Але яны не разумелі словаў, а спытацца ў Яго баяліся», ад Марка 9, 32.*

# Экзарцысты з малафронту

## Папа Маладога Фронту Севярын Павал II аддаў анафэме ўдзельнікаў зьезду БПСМ



Днямі ў Менску адбыўся зьезд арганізацыі, якая яднае самых шчырых і самаадданых прадстаўнікоў моладзі, – БПСМ. Аднак зайздросьнікам-апазыцыянэрам і тут не сядзелася, каб падкурвіць сьветлай справе падтрымкі палітыкі нашага Прэзыдэнта. Напярэдадні зьезду Малады Фронт ухваліў адмысловую заяву, накіраваную супраць БПСМ. У сваёй энцыкліцы маладафронтаўцы сьцьвярджаюць, што нібыта «выбарам маладых небаракаў (маецца на ўвазе канструктыўна настроеная моладзь – **рэд.**) кіруе ня Госпад Бог, а чорныя козьні лукавага». Па тлумачэньні мы зьвярнуліся да самога папы Маладога Фронту Яго Высокапраасьвяшчэнства Севярына Паўла I.

***– Скажыце, падрэ, Вы сьцьвярджаеце, што палітыка Лукашэнкі накіраваная збольшага на пэнсіянэраў. Але як Вы патлумачыце тое, што моладзь выбірае «пэнсійны фонд» замест хрысьціянска-кансэрватыўных груп накшталт МФ, бо на сёньняшні дзень БПСМ лічыцца найбольш буйнай маладзёвай арганізацыяй Беларусі?***

– Вы маеце рацыю, сапраўды, БПСМ налічвае ўжо больш за мільён членаў, і колькасьць іх пастаянна расьце. Робіцца дзіўным, што моладзь ідзе плячо да пляча разам са старымі (заўважце, нават не паўстае балючая праблема бацькоў і дзяцей!). Каб зразумець гэта, я тры месяцы правёў у посьце і маленьнях, і мне было Адкравеньне звыш: у выпадку з БПСМ мы сутыкаемся з эзатэрычнай зьявай «падсяленьня» альбо, інакш, перасячэньня духоўнага поля маладога чалавека з полем памерлага. Справа ў тым, што пасьля прыпыненьня сэрца й канстатацыі клінічнай сьмерці чалавека ягоны астральны двайнік разам з мэнтальнай складаючай губляе шчыльную энэргетычную сувязь зь целам.

За 40 дзён астаральная абалонка тае, як ледзяное покрыва, і мэнтальная складаючая зыходзіць у больш тонкія энэргетычныя слаі і нікому не перашкаджае ў нашым зямным жыцьці. Але часам чалавек памёр, не паставіўшы апошняй кропкі ў жыцьці, не пасьпеўшы аддаць апошнюю даніну любімаму прэзыдэнту. І тады ягоны дух (астрасома) імкнецца знайсьці нейкую крыніцу псыхічнай энэргіі для таго, каб завершыць свае справы на зямлі. І вядома, ён выбірае маладых, моцных, тых, каму яшчэ жыць і жыць. Ягоная блукаючая астрасома прымацоўваецца да энэргетычнага поля хлопца ці дзяўчыны. У выніку ахвяра ўмомант знаходзіць агульную мову з пэнсіянэрамі, старымі, карацей з тымі, хто падтрымлівае сёньняшнюю ўладу. І такіх ахвяраў астрасомнай атакі шмат. Яны натоўпамі запісваюцца ў БПСМ, ходзяць на афіцыйныя мітынгі, разганяюць мірных дэманстрантаў.

***– Гучыць змрочна, бо згодна вашай канцэпцыі: прабачце, Адкравеньня, я, мой сусед, сябар – кожны з нас можа стаць ахвярай! Што нам рабіць? Як засьцерагчыся ад гэтай навалы?***

– Трэба ўмацоўваць абарончыя сілы арганізму праз ВЕРУ. Знайдзіце тое, ува што вы можаце паверыць поўнасьцю і безумоўна. Пры гэтым вы вольныя ў выбары рэлігіі, таму неадкладна запісвайцеся ў «Царкву Маладога Фронту апошніх дзён». Мы, людзі адзіна вернай канфэсіі, ствараем абарончае энэргетычнае поле, якое і будзе «працаваць» на вас, калі вы пажадаеце да яго падлучыцца. Дарэчы, у нас усе падлучэньні амаль бясплатныя, існуе гнуткая сыстэма скідак. А зараз прабачце, у мяне вячэрняя малітва ●

ГУТАРЫЛА **МАЦІ ТЭРЭЗА**

# «Ружовае воблачка»

## Падобна, што чуткі пра асаблівы міліцэйскі атрутны газ маюць пад сабой глебу



«Шаноўны Аляксандар Рыгоравіч!

Пішуць ліст да вас жыхары дамоў пл. Бангалор. Наша абурэньне ня ведае межаў. Парк Дружбы Народаў быў раней месцам культурнага і спартыўнага адпачынку жыхароў і сабак раёну, агеньчыкам для ханыг, аазысам для эксгібіцыяністаў.

Цяпер жа апазыцыя ператварыла гэтае месца ў кляаку дэмакратыі. Жалезна кожны месяц там, дзе калісьці мы злучалі сваіх сібірскіх пітбультэр'ераў, апазыцыйныя правадары выгульваюць сваіх адмарозкаў. Пасьля кожнага мітынгу г.зв. дэмакраты пакідаюць пасьля сябе тэрмітнікі макулятуры й пустых жбанцаў з-пад разьліўнога піва. Але ўсё гэта толькі кветачкі ў параўнаньні з тым, што адчаплынілі маргіналы нацыянальнага духу на 26 красавіка. У гэты дзень, калі вы яшчэ не забыліся, нацдэмы сьвяткавалі ўгодкі Чарнобыльскай катастрофы. З транспарантамі, харугвамі і шарыкамі яны прыперліся ў наш парк, і... як бы па-інцелягенцку сказаць, абдзелалі парк у літаральным сэнсе слова. Калі з ранку мы вывелі шарсьцяных і футравых хатніх любімцаў на ранішні моцыён, мы былі ўражаныя.

Апазыцыйных фэкаліяў было як фармальных членаў у БПСМе. Дрэвы, лаўкі, пясочніцы – усё было пакрыта 10-ці дзюймовым экскрымэнтным слоем. Ну й дзе жыхарам цяпер пасьвіць сваіх шарыкаў і мухтараў, мужам закладваць за хамут, а клашарам праводзіць апэрацыю «Крышталь»? Прыміце, калі ласка, меры.» ●

*124 АБУРАНЫХ ПОДПІСЫ*

# Die Navinki

Ісьцінна арыйская газэта | 28 Красавіка - 10 Мая 2000 №8 (30) | Кошт свабодны

## Ад рэдакцыі

«Калі б ня ваша антыфашыстоўская партызанка, то пілі б мы зараз піва «Баварыя цёмнае» ў прыкуску з грыляванымі kilbaсамі», – менавіта так уяўляюць сабе большасьць вэтэранаў думку маладой беларускай парасьлі. Вядома ж, ёсьць і такія дэбілы, аднак можна быць упэўненымі на сто працэнтаў, што большасьць гэтых падлеткаў першымі набілі б сваімі целамі магілы (вядома, у выпадку, калі б яны ўвогуле зьявіліся на сьвет). Але на шчасьце гісторыя ня ведае, што такое ўмоўны лад дзеяслова, час не цячэ назад. Між тым, існуе канцэпцыя, што як бы гісторыя ні выбівалася са свайго натуральнага рэчышча пад уплывам суб'ектыўных фактараў, яна рана ці позна абавязкова ў сваё рэчышча вернецца. Вось мы й паддаліся спакусе ўявіць сабе, як выглядала б Беларусь пры новым парадку, сыходзячы з вышэйназванай канцэпцыі няўхільнасьці ходу гістарычнага працэсу. І тым больш цікава, што было б з газэтай *Навінкі*, калі б такая ўвогуле магла зьявіцца на сьвет.
Сапраўды, што б маглі пісаць у нашай газэце розныя Паўлі Пфэрдкапмфэры і Ульрыхі Ноймані, калі кола гісторыі ў 1941-ым павярнулася б у іншы бок? – задаліся мы пытаньнем і вырашылі стварыць віртуальны варыянт *Навінак*.
Зрабілі, паглядзелі і прыйшлі да высновы. Поўны адстой! Ні хера добрага за фашыстамі не было б. Такім чынам, перад вамі газэта *Die Navinki*, зарэгістраваная ў рэйхсканцыяярыі па друку Генэралбэцырку Вайсрутэнія ...




# Да 55 гадоў Перамогі

### Афіцыйная заява ўраду Генэральбэцырку Вайсрутэнія з нагоды Вялікай Перамогі Германскай Расы ў Бліцкрыгу

*55* гадоў таму закончыўся Бліцкрыг арыйскага народу супраць маскоўска-бальшавіцкіх захопнікаў. У логаве жыда-бальшавізму – Маскве маршалам Жукавым быў падпісаны акт аб безумоўнай капітуляцыі войскаў Чырвонай Арміі. Сатрап Сталін пакончыў жыцьцё самагубствам разам з жонкай Алілуевай, распароўшы сабе жывот каўкаскім кінжалам. Міністар прапаганды Левітан застрэліўся, а Берыя праглынуў капсулу з атрутай. Над паверженым Крамлём быў узьняты чырвоны сьцяг Перамогі. Сьціплы арыйскі карнік паставіў крыж на брэдавых плянах бальшавікоў аб сусьветным панаваньні. Сам камунізм на Разанскім працэсе быў вызнаны злачынный ідэалёгіяй, ягоная апалягетыка забароненая.
Пачаліся мірныя пасьляваенныя будні. Вайсрутэнія заквітнела ў сям'і шчасьлівых арыйскіх народаў пад сонейкам гітлераўскага прыказу «Аб камэнданцкім часе».
У 1953 памёр правадыр усіх народаў рэйхсканцлер Трэцяга Рэйху А.Гітлер. Сёньня ягоная дзейнасьць успрымаецца вельмі неадназначна. Не адмаўляючы наяўнасьць у ягонай практыцы адмоўных старонак, мы рашуча заяўляем: мы не дазволім ачарняць гістарычную памяць расы! Рашэньнем партыйнага кіраўніцтва на пост фюрэра быў абраны Мікіта Борман. На ХХ зьезьдзе НСДАП ён зьвярнуўся да партыі зь вядомым лістом «Аб кульце асобы А.Гітлера». Гэта было пачаткам пацяпленьня ўнутранага клімату ў Тысячагадовым Рэйху. Пачалася адліга. Былі рэабілітаваныя рэпрэсаваныя народы – палякі, расейцы, бэльгійцы, цыганы і яўрэі. Аднаўлены ў партыі Эрнст Рэм, які загінуў падчас славутых партыйных чыстак у 1934 годзе. Прыняты курс на мірнае суіснаваньне дзьвюх сыстэмаў: Вяліканямеччыны й ЗША.
Аднак валюнтарыстычная ўстаноўка Бормана на тое, каб перавесьці АПК на культывацыю альпійскіх фіялак, прывяла да дэградацыі імпэрскай эканомікі. У выніку ў 1967 пазачарговы пленум НСДАП звольніў Бормана з пасады фюрэра. Пост канцлера заняў Вільлі Брант. Падчас ягонага кіраваньня ў Рэйху зьявіліся першыя сымптомы застою і абвастрэньня праблемаў эканомікі.
Новы фюрэр Гельмут Коль, які ў 1985 пасьля сьмерці Бранта быў абраны на пост першага кіраўніка Рэйху, абвясьціў пачатак г.зв. Einsturtzende Neubauten (перабудовы), якая ўрэшце прывяла да развалу агульнай Радзімы і разрыву гаспадарчых сувязяў. Сябры нацысцкай партыі кідалі на стол райкамаў партбілеты, поўным ходам ішоў парад сувэрэнітэтаў. Перавёртышы з Вайсрутэнскага Жыда-масонскага Фронту патрабавалі рэабілітаваць партызанаў і чырвоных бандытаў, прыхвасьняў камуністаў, якія ў гады другой сусьветнай вайны тварылі бясчынствы на землях, вызваленых вэрмахтам.
Кульмінацыяй цэнтрабежных працэсаў стала змова ў бранскім лесе, дзе гаўляйтэры распусьцілі Тысячагадовы Рэйх. У гэты крытычны для германскай расы момант гісторыі былі прададзеныя ідэалы арыйскай чысьціні. Аднак на выбарах 1995 юнкер Алекс фон Лукашынкель быў абраны гаўляйтэрам Вайсрутэніі. Малады гаўляйтэр узяў рашучы курс на аншлюс зь вялікім нямецкім народам. Сёньня разам з канцлерам ФРГ Шрёдэрам мы будуем адзіны дом і сьмела глядзім у будучыню. Падставамі такога аптымізму зьяўляецца гістарычная перамога, якую мы сьвяткуем сёньня ✠

# Чарнобыльскі Рэйд

## Новыя вылазкі камуністычнага падпольля

Ноў актывізавалася анты-народная камуністычная апазыцыя. Пасьля бліску-

Азёраў, дзе іх сустрэлі артылерыйскім агнём карныя падраздзелы паліцыі і войскаў СС. У выніку анты-

працягнуць падчас развалу Тысячагадовага Рэйху. Высоўваюцца й брэдавыя пляны інтэграваць нашу

апазыцыя падняла міжнародны гам, што нібыта ўсе затрыманыя былі расстраляныя. Між тым ...

БАЛЬШАВІКІ – ВОРАГІ НАРОДУ!

Кіно




Зноў актывізавалася антынародная камуністычная апазыцыя. Пасьля бліскучай перамогі Гаўляйтэра на выбарах і роспуску Беларускай Цэнтральнай Рады бальшавіцкія адорвышы не пакідаюць сваіх дзёрзкіх плянаў аднавіць савецкую ўладу ў Генэральбэцырку Вайсрутэнія.

Гэтак, нядаўна камандзіры партызанскіх атрадаў імя Заслонава правялі чарговую антырасавую вылазку. Партызанскія адмарозкі арганізавалі несанкцыянаваны Чарнобыльскі Рэйд па Белавескай пушчы. Ня гледзячы на прадпісаньне Гаўляйтэра дазволіць рэйд толькі да Прыпяцкага запаведніку, палітычныя экстрэмісты пад чырвона-зялёнымі сьцягамі і выкрыкамі «За Радзіму! За Сталіна!» дайшлі аж да Блакітных Азёраў, дзе іх сустрэлі артылерыйскім агнём карныя падраздзелы паліцыі і войскаў СС. У выніку антытэрарыстычнай апэрацыі каля 100 чырвоных бандытаў былі забітыя, больш за 2 тысячы зьняволеныя ў Валадарскім канцлягеры. Астатнія партызаны былі расьсеяныя ў бліжэйшых лясах.

І такіх правакацыяў за апошнія гады было праведзена шмат. То з патрабаваньнем рэабілітаваць савецкіх калябарантаў, якія ў часы Бліц Крыгу супрацоўнічалі са сталінскімі катамі. То аднавіць Вайсрутэнію ў межах БССР 1940 году. То з патрабаваньнем прызнаць нядзейнымі вынікі плебісцыту, наступствам якога стала скасаваньне відавочна пракамуністычнай чырвона-зялёнай сымболікі Вайсрутэніі, якую манкуртам удалося працягнуць падчас развалу Тысячагадовага Рэйху. Высоўваюцца й брэдавыя пляны інтэграваць нашу краіну ў Эўразійскі Саюз.

Ні для кога не сакрэт, што мясцовае камуністычнае падполье мае шырокую матэрыяльную падтрымку з боку Сібіры, куды пасьля перамогі былі выселеныя ўсе недачалавекі з эўрапейскай часткі былой Расеі. Дапамога дастаўляецца самалётамі й скідваецца на сакрэтныя партызанскія базы. Менавіта адтуль партызаны маюць крупы, бульбу, хлеб, соль і запалкі, што дазваляе ім працягваць сваю антыдзяржаўную дзейнасьць.

Падпольшчыкі выкарыстоўваюць любую магчымасьць, каб прадставіць Вайсрутэнію нэтаталітарнай дзяржавай. Гэтак, пры разгроме падпольнай тыпаграфіі па выпуску газэты *Раздавім фашысцкую гадзіну* апазыцыя падняла міжнародны гам, што нібыта ўсе затрыманыя былі расстраляныя. Міжтым, яўрэяў трэба было падвешваць за рабро на круку, як таго патрабуе заканадаўства, або, на худы выпадак, паліць у крэматоры. Пастаянныя папрокі чуюцца й наконт таго, што ў засьценках гестапа зьнікае вялікая колькасьць ісьцінных арыйцаў.

Вядома, што інсынуацыі бальшавіцкай прапаганды ня маюць пад сабой аніякай падставы. Кожнаму арыйцу вядома, што зьнішчэньне недачалавекаў адбываецца строга ў адпаведнасьці Генэральнаму пляну падвышэньня расавай чысьціні ў Вайсрутэніі.

Так што, таварышы камісары, хутка й да вас дабяромся ✠

**Паўль Эыбэрт**

# Югэнд на вякі!

## Невядомы подзьвіг арыйскага хлопчыка гітлер-югенд-героя Херыка Казяяткі выратаваў жыцьці нямецкіх людзей

Днямі ў рэдакцыю прыйшоў ліст ад юных сьледапытаў Караедскай сярэдняй унтэршколы Пухавіцкага павету. Яны зьвярнуліся да нас з просьбай расказаць пра подзьвіг маладога нацыянал-сацыяліста, сябра Саюзу Беларускай Моладзі Херыбэрта Казяяткі. Дванаццацігадовы Херык загінуў на станцыі Геніюшы, выконваючы свой доўг калябаранта. Вось што піша пра яго ў сваіх успамінах тройчы Герой Трэцяга Рэйху, кавалер ордэну працоўнага Жалезнага Крыжу 1-й ступені Радаслаў Астроўскі.

«У сонечны дзень 22 чэрвеня 1943 году Херык Казяятка апрануўся ўва ўсё сьвяточнае. Яго́ны гнуткі дзіцячы торс элегантна абцягвала ўпрыгожаная арнамэнтам карычневая сьвітка, а рот прыемна казытала залатая каронка – падарунак камэнданта лягеру ў Трасьцянцы. Сэрца хлопчыка радасна вырывалася з грудзей у чаканьні нямецкага вайсковага эшалёну, які павінен быў прыбыць праз тры гадзіны. Ён ужо ўяўляў сабе плятформу, біткам забітую шумнай ватагай салдат і афіцэраў Тысячагадовага Рэйху, а ў вушшу ўжо чулася мэлядычнае «Зіг Хайль!» і франтавыя песьні арыйскіх вояроў-вызвольнікаў. Цягнік павінен быў таксама прывезьці юнаку весткі і пачастункі ад яго́нага бацькі, які шабашыў у Нямеччыне на будаўніцтве новага корпусу ў Дахаў.

Херык доўга сядзеў у дыспэчарскай, некалькі разоў зьбегаў на глінтвайн да сяброў у раённае аддзяленьне гестапа. Нарэшце, надышоў час ісьці на пэрон. Калі ён спусьціўся на пуці, сэрца юнага вэрвольфа калацілася ўсё мацней і мацней... Цік, цік, цік... Прайшло добрых пяць хвілін, перш чым Херык зразумеў, што гэта працуе гадзіньнікавы мэханізм магнітнай міны, па-жыдоўску хітра прымацаванай да рэйкі чырвонымі бандытамі.

Зусім блізка пачуўся гудок паравозу. Паводле маскоўскага часу да выбуху заставалася ня больш за трыццаць сэкунд. Хлопчык яшчэ меў магчымасьць сысьці са станцыі і выратавацца. Але герой-гітлеровец ведаў, што калі эшалён загіне, фронт не дачакаецца тысячаў адзінак жывой сілы, а дзясяткі эканамічных, палітычных і вайсковых мерапрыемстваў на вызваленых тэрыторыях будуць сарваныя. Гэтага Херыбэрт дапусьціць ня мог. Трэба было кроў з горла адчапіць ад рэйкі д'ябальскую машынку.

Тым часам, цягнік усё набліжаўся. «Цурук! Цурук!» – закрычаў паліцай Антось, які ўжо пачынаў хваляваць, каб дзіця ня трапіла пад колы лякаматыву. Але самааддана гітлер-югенд ужо нічога не заўважаў. Нарэшце, засоў, на якім трымалася міна, паддаўся – і дзесяць кілаграмаў бальшавіцкага трацілу апынуліся ў руках белакарага Херыбэрта.

Выбух павінен быў адбыцца праз дваццаць восем сэкунд. Неабходна было аднесьці сьмерціносны мэханізм як мага далей ад жыцьцёва важных аб'ектаў. Юны гітлерабрэц агледзеўся: з правага боку ад станцыі знаходзілася камэндатура, зьлева – казарма Беларускай Краёвай Абароны. Што рабіць? Тут у галаве адважнага калябаранта маланкай прамільгнула думка: праз вуліцу ад станцыі ёсьць невялікае яўрэйскае гета, і, калі хутка бегчы, людзі будуць выратаваныя. Херыбэрт пабег з усіх ног, несучы пад пахай бандыцкую міну.

...Сем, шэсьць, пяць... Сабраўшы апошнія сілы, ён скокнуў на тэрыторыю гета, пераляцеўшы праз тры шэрагі калючага дроту. «Людзі будуць жыць!..» Відавочцы распавядалі... гэта было жахлівае відовішча. Страшэнны выбух разьмятаў шматкі югенд-героя па ўсіх руінах гета. Аднак ніводзін нямецкі салдат, ніводзін эшалён, што адпраўляўся на Ўсходні фронт, не пацярпеў» ✠

**Герхард Акінчыц**

На фота: Ля мэмарыялу гітлер-югенд-героям, якія аддалі свае жыцьці для вялікай Перамогі вэрмахту. Іх подзьвігі служаць надзейным і верным компасам для маладога пакаленьня вайсрутэнаў.

# Аб'явы

Менчукі й госьці гарнізону! Зноў адчынілася піўная-музэй першага зьезду НСДАП. Чакаем штодня.

Зьменім расу за 3 сэансы. Тэл: 56789089 Д-р Мэнгель.

Калі вам дарагая наша Вайсрутэнія і чысьціня арыйскае Расы, прыходзьце! Спатканьні шточацьвер на вул. Бормана,8.

Танна зраблю вэб-старонку на сэрвэры nazi.com.

Прадам «шмайсэр». Надорага.





якую мы сьвяткуем сеньня ✠

# Кіно

## Трыюмф волі



Майскі кінарэпэртуар Менску багаты на навінкі. Безумоўна ў фокус увагі гледача трапіць новы фільм вытворчасьці Бэрлінфільм **«ЛЮБОЎ ПА-ПРУСКУ-4»**. Фільм узьдымае шэраг актуальных для грамадзтва пытаньняў. Былы раённы фюрэр НСДАП, падрапаны рэформамі, вымушаны ехаць у правінцыю, каб асвойваць жыцьцёвую прастору. Аднак нават тут яму замінаюць новыя неарыйскія элемэнты і іх жыда-камуністычныя чэрчыльскія асыстэнты. Як заўсёды, каханьне да фюрэра мацнейшае.

У рамках оскараўскага тыдня Ляўрэат прэміі Оскара Шылінбэрга фільм **«ЛІСТ ШЭНДЭРОВІЧА»** аб гераічным учынку аднаго унтэрмэнша-недачалавека Гіршы Шэндэровіча. Лоўкі дзялягя Шэндэровіч адбівае капусту, пастаўляючы на рынак СССР будзёнаўкі і самавары. Для іх вырабу ён выкарыстоўвае працу рэпрэсаваных немцаў Паволжа. Падчас кантактаў з прадстаўнікамі вышэйшай касты Шэндэровіч адчувае для сябе ўсю бездань сваей расавай непаўнавартасьці. Цяпер ён сам пачынае гарбаціць з ранку да ночы, а немцаў як мае быць ставіць над сабою. Калі «пантэры» Паўлюса прыносяць Расеі выратаваньне, арыйцы дзякуюць Шэндэровічу за ўсё добрае. Яны яго не забіваюць нагамі, як апошняга сабаку, а бязбольна накачваюць газам «Цыклён Б».

І нарэшце апошні фільм Лені Рыфэншталь **«РОМЭЛЕЎСКІ СНАЙПЭР»**. Вэтэран афрыканскай кампаніі, унука якога падчас антытэрарыстычнай апэрацыі гвалцяць чырвоныя бандыты, вымушаны прадаць свой фамільны дом, каб набыць «шмайсэр» з аптычным прыцэлам з мэтай давесьці: справядлівасьць можа за сябе пастаяць. Фільм уражвае колькасьцю спэцэфэктаў, што перадаюць карціну побыту ў Бухэнвальдзе. Дзеці да 16 гадоў не дапускаюцца.

Глядзіце ў кінатэатрах «Бэрлін», «Карнік», а таксама ў Доме Культуры гестапа імя Гімлера.

# Неверагодныя прыгоды ANiMALS у Менску




Бухалка пад грукат колаў йшла весела і лёгка. У вокны сьвяціла сонейка, праваднікі выграбалі пустыя бутэлькі, а ўвесь вагон радасна падцягваў вакалісту народную «Хаўс оф ра-а-айзынг сан». Калі а восьмай раніцы паддатыя ANIMALS вылезьлі на нагрэты пэрон менскага вакзалу, яны ахрэнелі. Абсалютна пусты вакзал сустрэў іх зборшчыкамі бутэлек і постацямі міліцыянтаў.

Як высьветлілася пазьней, сустракаючы бок у поўным складзе адсыпаўся пасьля папярэдняга банкету ў гонар заўтрашняга прыезду легендарных ANIMALS.

Музыкі разгубіліся: увесь даляровы кэш быў банальна прапіты падчас пераезду Берасьце–Менск. Пасьля кароткага падліку наяўнасьці і ўдакладненьня коштаў на таксі легенды року дасталі свае швайкі і проста на пэроне пачалі катаць праграму. Праз якія пятнаццаць хвілінаў вакол сабралася вясёлая тусоўка прывакзальных бамжоў – былых рокераў – якая на «ўра» прымала замежных чувакоў. У шапку кідалі пакамечаныя дваццаткі. Нейкі парыпаны дзядзька нават пакінуў недапітае піва. «Гэта музыка маёй маладосьці», – патлумачыў ён праз скупую сьлязу. Аднак імправізаваны Вудсток трываў нядоўга..

Сьвята скончылася толькі праз паўгадзіны, калі пад'ехаў варанок. У апарняку застрэманыя вонкавым выглядам рокераў (а тыя былі ў курсе пераможных сьвяткаваньняў), мянты доўгі час не маглі прыйсьці ў сябе. З гадзіну ўвесь аддзел апантана высьвятляў, што гэта за м..кі, скуль яны ўзяліся і дзе працуюць-вучацца.

Толькі прыбыўшы апухлы прадстаўнік арганізатараў здолеў пераканаць міліцыю, што перад імі ня проста музыкі, а зоркі, якія прыбылі ў Менск, каб даць адмысловы канцэрт прысьвечаны Дню Перамогі.

Пасьля башляньня ў якасьці «штрафу» паўкасара зялёнымі інцыдэнт быў вычарпаны, і музыкі спакойна паехалі ў свой гатэль, каб адпачнуць перад наступным канцэртам. ●

**Ян Зьвяркоў**

# нОЛь: гаўнароку не было



***Адэпты таталітарнай сэкты, музыкі і душагубы з гурта НОЛЬ моляцца за грахі ўсіх сваіх былых фанатаў***

«Хведар, давай гаўнарок!», «Абудзіся, хлопец!»,– менавіта такой была рэакцыя публікі на новую праграму экс-лідэра гурту НОЛЬ Х.Чысьцякова. Вядома ж, хлопчыкі і дзяўчынкі, якія сабраліся ў КЗ «Мінск» разьлічвалі пачуць свае любімыя залатыя хіты пра індзейцаў, гоншчыкаў ды вуліцу Леніна. Але Чысьцякоў, нібы той дохлы трамвай, бубніў у мікрафон нешта сьлёзапускальна-лірычнае і супакоена-прыстойнае. Таму ўжо пасьля першых песень увага дзяўчынак пераключылася з Чысьцякова на гітарыста-пасіянарыя, які курчыў сьмешныя грымаскі, нібы рыхтуючыся заняць месца Хведара ў псыхіятрычнай лячэбніцы.

Аб тым, што Чысьцякоў зрабіўся сьведкам Яговы і больш не выконвае свае старыя «баевікі»; мы даведаліся з артыкулу прымадоны беларускага эстраднага пі-ару Н.Падабед у *Музыкальной газете*. Але ніхто й ня думаў, што новыя песьні зьяўляюцца такім жудасным адстоем.

Адразу падкрэсьлю, што ніякага драйву не было. Чысьцякоў сьпяваў пад акустычную гітару і клявішы «Korg». Да таго ж яшчэ маэстра быў ня ў голасе. І ня гледзячы на тое, што ў Хведара на шчоках паступова праявіўся славуты «нездаровы» румянец, старой добрай агрэсіяй тут і ня пахла. Новыя сьпевы па матывах дзіцячых вершаў Хармса і Чукоўскага мяне зусім ня ўразілі. Так, хай мяне абвінавацяць у снабізме, але спрабаваць сьпяваць нешта новае пра Бармалея пасьля любімага ўсім народам саўндтрэку да мультфільму «Айбаліт» – занятак сапраўды няўдзячны. Гледачы, расчараваўшыся ў Хведары, згрупаваліся ля сцэны і пачалі пыхаць «шышачкі», самастойна ўзьнімаючы сабе настрой. Не даслухаўшы Чысьцякова, я міграваў у буфэт, дзе ў асяродзьдзі музычнага бомонду сустрэў тую самую Натальлю Падабед з куфлем біякефіру ў руцэ. У кулюарах горача абмяркоўваўся той факт, што Х.Чысьцякоў аказаўся вельмі падобным з твару на патрыярха айчыннай рок-журналістыкі Валерыя Краснагіра.

«Што робіць зь людзямі час!» – сказаў мой знаёмы крытык з часопісу *Клёк 2*, абураючыся наконт пачутай праграмы. Не, тут вінен ня час, а агульная сытуацыя, што пануе зараз на расейскай рок-сцэне. Патаканьне нізкаму густу масавага спажыўца, выхалашчваньне з тэкстаў сацыяльнай праблематыкі і прымітывізацыя мэласу – вось тыя хваробы, на якія разам з усімі расейскімі рокерамі захварэў і Чысьцякоў. Ах, Хведар, Хведар! Як нам будзе цябе не хапаць! ●

**Нябаба,**
музычны крытык

# Залаты грабяшок

## Канцэрт 9 мая ня меў аніякага дачыненьня да Дня Перамогі

За маімі плячыма безьліч канцэртаў. Свой першы рэпартаж я напісаў аб выступленьні Шульжэнкі для чырвонаармейцаў падчас ленінградзкай блякады ў сорак трэцім. Чаго толькі не давялося пабачыць. Ня думайце, я таксама разьбіраюся ў сучаснай музыцы – ведаю Бэрнэса, Кабзона, Таўкунову...

Відаць, калегі па рэдакцыі вырашылі нада мной пажартаваць у Дзень Перамогі, ды кажуць: «У КЗМ нейкая вечарына для вэтэранаў, Давідыч, бяры ўнучку ды схадзі нахаляву, паглядзі». Але, здаецца халява скончылася яшчэ тады, у сорак трэцім. На ўваходзе мяне затрымаў нейкі бамбіза ў падазроным камуфляжы. На яго не зрабіла аніякага ўражаньня маё вэтэранскае пасьведчаньне. «Квіток гані», – фыркнуў ён. Я ўжо вырашыў плюнуць ды сысьці, але засаромеўся перад унучкай. Што яна падумае! Мы, якія перамаглі ў такую вайну, ня можам сабе дазволіць: Як гэта так?!

Набыўшы квіткі з рук у нейкай недарасьлі з пафарбаванымі валасамі (на гэта пайшла ўся Прэзыдэнцкая ўспамога), мы ўсё ж трапілі ў залю. Я адразу аж закашляўся – у паветры вісеў нейкі смог, газ ці што. Але ўнучка патлумачыла, што гэта нейкія манжурскія благавонія. Далей – горш.

На сцэну выйшаў выканаўца з музыкамі – патлатыя, няголеныя, апранутыя быццам са сьметніку. Аб музыцы я нават не кажу, бо менавіта яе я так і не пачуў. Унучка казала, што гэта нейкія «рогі» ці «рэгі», а выканаўца, здаецца, Грабаўшчыкоў. Ня ведаю, як там рогі, але малацілі гэтыя маэстры па сваіх бубнах, як чэрці. На сцэне стаяў дым карамыслам. Пра «песьняра» нават пісаць агідна – то замекае казлом, то воўкам завые – аніякіх вакальных дадзеных. Недзе ў сярэдзіне імпрэзы ў яго, здаецца, разгуляліся страўнікавыя колікі – ён пачаў катацца па сцэне й енчыць.

І ўсё ж найбольш сумна ўразіла нават ня гэта. Пакрыўдзіла тое, што за ўвесь вечар аніводнага слова не было сказана пра Вялікую Перамогу, пра тыя жудасныя ахвяры, якія панес наш мужны народ у барацьбе з фашысцкімі захопнікамі, пра тое, як кавалася Перамога ў тыле, пра партызанскі рух Беларусі, пра рэйкавую вайну...

Плюнуў я й пайшоў дахаты. Ня тая ўжо моладзь. Ім абы паенчыць ●

**Лой Давідавіч Быканах,**
заслужаны журналіст БССР,
вэтэран ВАВ

## *Футбол:*

# Абкакалася ў Андоры.

***Н**аша слаўная футбольная дружына ў рамках адборачных гульняў наведала карлікавую дзяржаву ў Пірэнэях, заціснутую паміж Францыяй і Гішпаніяй. Як гэта ні дзіўна, але зборная гаспадароў – паштальёны ды гандляры цыгарэтамі, што па выходных рэжуцца ў двары ў футбік, – апусьцілі нашых «профі» ў адну «калітку». Аргвывады пасьледавалі неадкладна: гульцы беларускай зборнай былі пазбаўленыя статусу прафэсіяналаў і павышаныя да рангу аматараў. Як вядома, аматар акрамя заняткаў футболам мусіць быць працаўладкаваным. І вось, пасьля непрацяглых пошукаў працы ўсе рабяты атрымалі сталае месца працы. Прапануем чытачам азнаёміцца са сьпісам прафэсіяў, выбраных гульцамі нашай «залатой зборнай».

N1 Валеры Шанталосаў («Лакаматыў» Н-Н ) – прадавец арбузаў.
N2 Эрык Яхімовіч («Дынама» М) – лыжка Пінкі ў праграме «Сам себе режиссер».
N3 Андрэй Астроўскі («Дынама» М) – накачывальшчык мячоў у ФК «Дынама- 2»
N4 Сяргей Штанюк («Дынама» М) – загадчык аддзелу галаўных убораў ва ўнівэрмагу «Прага».
N5 Сяргей Ясковіч («Анжы» Махачкала) – санітар брыгады палявога камандзіра Вахі Арсанава.
N6 Вячаслаў Герашчанка (ЦСКА) – прапаршчык.
N7 Аляксандар Чайка («Аланія» Уладзікаўказ ) – арнітоляг.
N8 Вадзім Скрыпчэнка (ЦСКА) – настройшчык музычных інструмэнтаў.
N9 Радзіслаў Арлоўскі («Тарпеда» М) – мойшчык машынаў.
N10 Уладзімір Макоўскі («Ворскла» Палтава ) – прадавец літаратуры УНА-УНСО.
N11 Валеры Стрыпейкіс («Славія» Мазыр) – ліквідатар наступстваў аварыі на ЧАЭС.

А настаўніку зборнай Сяргею Бароўскаму прапанавалі пасаду скаўта ў клюбе пятага гішпанскага дывізіёну Constellasio Sportive.

## *Хакей:*

# Тое-сёе пра спонсарства.

***С**усьветны чэмпіянат па хакеі мала парадаваў беларускіх фанатаў. Назіраючы, як славутая зборная, што з бляскам разграміла хахлоў і надрючыла расейцаў, сьцелецца перад нейкімі там латышамі ды швэдамі! Вынік – вылет з чэмпіянату. Што мы – самыя крутыя славяне – гэта не пытаньне. Але няўжо нашыя могуць мачыць толькі славянаў (ну і швайцарцаў у прыдачу)? Разгадка аказалася простай, як бутэлька «Старога замку». Зразумела ж, вы памятаеце, як напярэдадні чэмпіянату БТ плакала-разрывалася, пераконваючы багацеяў праспансаваць выступ беларускай зборнай. На гэтую фішку купіўся відаць толькі... Лідзкі піўзавод, які й стаў нашым генэральным спонсарам. Цяпер зразумела, чаму пасьля першага ж пераможнага матчу зборная пачала зьліваць гульню за гульнёй. Сапраўды, паспрабуй забіць, калі не пасьпееш перадаць пас, а партнэру ўжо карціць у прыбіральню. Каб не аканфузіцца перад публікай, няшчасны трэнэр вымушаны быў кожныя пяць хвілінаў зьмяняць гульцоў на пляцоўцы. Так што выбірайце спонсараў не адыходзячы ад касы!

Для даведкі. Спонсар зборнай Расеі – гарэлка «Сталічная», зборнай Украіны – «Перцівка Дніпрянська», а зборнай Швайцарыі – бальзам Бітнэра.

# КУЛЬТУРА




## Правільная музыка ад Супрановіча і Ко

*З будзёнасьці:*
*– Эў, ты! Тармазі! Чаго ты такі патлаты? Круты?*
*– Я... Я музыку люблю слухаць.*
*(глухія ўдары, воплі)*
*– Трэба слухаць правільную музыку, казь-зёл...*

Нібыта камэта, што разьдзірае спакойнае начное неба, зьявіўся на рынку аўдыё прадукцыі новы дыск ад лэйблу «Супрановіч-дыстра – дзёшава й быстра!». На гэты раз праект вольных танцораў завецца проста й ясна, без прэтэнзіяў: НОВАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА. Аматары г.зв. беларускага року могуць скакаць і весяліцца.

Купіўшыся на пасулы Супера, я ўзяў халяўны экзэмпляр гэтай кампіляцыі зь вялікай доляй скепсысу. Маўляў, паглядзім, што за новую альтэрнатыву адкапаў неўтаймавальны Віталь, вялікі прамоўтэр усіх маладых гуртоў-пачаткоўцаў. Я ўжо ўяўляў сабе нейкіх гомельскіх панкаў з АЦЕТИЛЕНА або змрочных блэкароў з Кобрынскага раёну, кшталту DETECTOR...

Дыск пераўзыйшоў усе магчымыя спадзевы! На сваё вялікае зьдзіўленьне я знайшоў там цэлую гару новых выканаўцаў. Дакладней адкрыў іх на нова. НРМ, УЛІС, НОВАЕ НЕБА... Здавалася, я чуў іх упершыню! Канкрэтна па-новаму загучалі песьні пачатку 90-х. Нова й альтэрнатыўна выглядала тое, што гэты праект мае зь дзюжыну спонсараў і інфармацыйных падтрымшчыкаў. Такога галімай, «старой» альтэрнатыве, якая «па струнах лупіць у падвалах цеплатрас», і ня сьнілася.

Аднак больш за ўсё спадабалася, што «новыя» хочуць раз і назаўсёды пакончыць з гэтымі «старымі» падвальнымі вырадкамі. У гэтым можна пераканацца, прачытаўшы адразу пад надпісам НОВАЯ АЛЬТЭРНАТЫВА, дзе аранжавым па шэраму выпісана: «ты выбраў ПРАВІЛЬНУЮ музыку!»

А каб вызначаць «правільнасьць» ці «левельнасьць» музыкі, пры БМА створаная спэцыяльная камісія, накшталт інквізыцыі. Тэст на правільнасьць вызначаецца вельмі складанай й заблытанай сыстэмай індэксаў Сахарава і Супер-інтэгралаў. На выхадзе, праўда, атрымліваецца, што выращэньне вельмі простае і лінейнае: ПРАВІЛЬНАЯ музыка, гэта музыка, якую каўбасіць БМА . І дзялоўта. А што круціць?

Простыя ж слухачы могуць заценіць правільнасьць Супрановіча ўсяго за пару-тройку баксаў ●

**Вальдэмар Клімаў**



## Ціха! «Контру» нашчупалі!

*«Ідыёт, самы настаяшчы...»*
*Творы і экспромты ў розных жанрах.*
*Выдавецтва Kontra-Press,*
*Менск–Варшава–Масква, 2000.*

Калі чытач думае, што гэты пасквіль, што днямі зьявіся на офісах буйнейшых палітычных партыяў, накіраваны супраць нашага гарачо любімага Прэзыдэнта (што можа падацца на першы погляд) – ён глыбока памыляецца. Што тут казаць, ад такога валу разнамаснага рускага мату сапраўды белыя коні-пагоні па кватэры пабягуць. (Дарэчы, між аўтараў гэтага мацернага палп-фікшну значыцца й досыць паважаны хрэстаматыйны паэт-клясык Ніл Гілевіч, які, відаць, таксама не адмаўляе сабе ў крэпкім слоўцы.)

Аднак чарговая порцыя экскрэмэнтаў ад дэфэнзывы (брашурка нібыта выдадзеная ў Польшчы) відавочна звалілася на іншыя галовы. Да прыкладу, на стар. 47 чытаем пра ўвесяляльнае мерапрыемства камарылы, ад якіх кроў стыне ў жылах:

*«Тоже не из мелких чар*
*Опрокидывал Гончар...*
*Пьяный Лебедько, урча,*
*Рвал программу Францыча.»*

Праз колькі старонак мы даведваемся шмат цікавага з жыцьця й дзейнасьці такіх важных «апазыцыйных» бонзаў, як «Глаўбух» Багданкевіч адмывае бабкі, «Аграном» Шарэцкі завальвае сеў, а «Ўчастковы» Захаранка мочыць у сарціры дэпутатаў ад апазыцыі БНФ. І такіх корак і наездаў на дзеячоў беларускага дэмакратычнага руху тут кішмя кішыць. Дасталося й Чыгіру, сёньняшняму «рэальнаму кандыдату ў прэзыдэнты ад апазыцыі».

Хто насамрэч выдаў гэтую кніжку – можна здагадацца. Выдатны прыклад антыапазыцыйнага «чорнага пі-ару», таварыш Прэзыдэнт! ●

**Аркадзь Райкін**




«Ня рый іншаму яму – сам уваліськя!» Як ніколі актуальная гэтая народная мудрота.

## МОва
### Да пытаньня вытлумачэньня прымавак

Мінула сьвята Перамогі, ад якога ў памяці засталася толькі палымяная прамова нашага мудрага правадыра АРЛа (у сэнсе не драпежную птушку арла, а нашага Прэзыдэнта) перад вэтэранамі. Асабліва ўпалі ў душу словы народнай мудрасьці, што прагучалі зь ягоных вуснаў:
*«Не нужен клад,*
*когда в доме лад»*

Мне заўсёды западае ў душу ўсё незразумелае для мяне. І вось я зьвярнуўся па тлумачэньні да спэцыялістаў расейскай мовы, каб высьветліць сутнасьць гэтай мудроты: колькі ж трэба мець «лад», каб цябе ўжо не цікавілі дадатковыя прэзыдэнцкія субсыдыі (клад)і Прафэсар Іван Пятроў сказаў, што не пра аўтамабілі «лада» там ідзе гаворка. Гэта, маўляў, вобразны выраз і ня трэба хваляваца.

Тады я зьвярнуўся да беларускага філёляга акадэміка Янкі Станкевіча, які сказаў, што тая прымаўка на нашую мову перакладаецца вельмі проста:
*«Не цікавіська ўжо кладам,*
*калі дыхаеш на ладан».*

Праўда, Вінцук Раніца, знаны палітык і мовазнаўца зазначыў, што прымаўкі не перакладаюцца. Трэба проста шукаць у нашым фальклёры сэнсавыя адпаведнікі. Ён мяркуе, што паводле сэнсу тут падыйшло б наступнае прыслоўе:
*«Не спатрэбіцца бікфорду,*
*калі маеш ў хаце «форду».*

А паколькі народ збольшага ня мае ані «форду», ані нават прыстойнай хаты, дык бікфордаў шнур можа нават неўзабаве й спатрэбіцца.

Што на гэта скажа філялягічная камісія пры адміністрацыі прэзыдэнта?

**Вітаўт Мартыненка**
















































# ПСЫХАГЕАГРАФІЧНАЯ ГУЛЬНЯ




# «Дайдзі да ўнівэру!»

## ТлумачЭньні

**П**равілы гульні вельмі простыя. Трэба як мага хутчэй прайсьці з інтэрнату да ўнівэру. Пачынаеце рух у бок свайго ўнівэру карацейшай дарогай, выконваючы ўсе прадпісаньні знакаў. Па дарозе вас чакаюць прыгоды. Калі ж Вы не патрапіце на «Вялікае алькагольнае кола» і адразу трапіце да сваёй alma mater, можаце лічыць сябе ўзорным студэнтам-батанікам. Ведайце: каб трапіць ва ўнівэр трэба выкінуць дакладную колькасьць костак.

Калі вы ўсё ж патрапілі на заняткі, кіньце кубік яшчэ раз:

1– вы адразу ж напароліся на дэкана, які заўважыў, што вы прыйшлі на пару бухія;

2 – на Дошцы аб'яваў каля дэканату вы знайшлі загад аб вашым адлічэньні за сыстэматычны пропуск заняткаў;

3 – даведаліся, што вы за сёньня прапілі ўсю сваю сьцяпуху;

4 – аказалася, што вы дарма сьпяшаліся, бо выкладчык забухаў і пару адмянілі;

5 – выкладчык не заўважыў вашага спазьненьня і вам ня прыйдзецца адпрацоўваць пропускі;

6 – вы адхапілі грандыёзную халяву: атрымалі аўтаматы па ўсіх экзамінах сэсіі!

Хто прайграў, той бяжыць па бухло.

(1) – Рэстаран «Старое русла» – не піўняк «Сьвіслач». Кіньце кубік: 5 ці 6 – вы акурат атрымалі сьцяпуху, бярыце піва і прапусьціце 1 ход; 1-4 – бабак не хапае, ідзіце далей на колькасьць костак.

(2) – Адмарозкі на Пуліхава зноў бесяцца. І вы туды ж, каменькаў захацелася?! Ну кідайце. Колькі «камянёў» кінулі, на столькі хутка бяжыце наперад.

(3) – Зайшлі ў парк Горкага. А тут – гопнікі: «Эў, дай закурыць!» Прыйшлося завязацца. Кіньце кубік: 4-6 вы навешалі самаму бойкаму й бяжыце наперад; 1-3 вас адкуячылі, цікайце назад.

(4) – На «Акіяне» разьліўное піва падвезьлі. Кіньце кубік: цот – абед, валіце далей на колькасьць костак; няцот – вы першы ў чарзе, бярэце піўка, воблу і прапускаеце 1 ход.

(5) – Зайшлі на «Камароўку» па семкі. Трэба зьмяніць бакс. Кіньце кубік: цот – вас замялі за валютныя апэрацыі, прапусьціце 1 ход; няцот – ідзіце далей, лузгаючы семкі.

(6) – Пасольскі комплекс. Кіньце кубік: 1-2 – да пас. Украіны, яно ж яшчэ будуецца, вярніцеся; 3-4 – да пас. Расеі, вялікая чарга, пропуск 1 ходу; 4-5 – да пас. ЗША, вы атрымалі візу, наперад.

(7) – Каля Опэры мітынг апазыцыі, а у вас акурат пачак *Навінак*. Кіньце кубік: 1-3 – херова, мянты канфіскавалі газэты, пропуск 1 ходу; 4-6 – супэр, уцюхалі па стольніку ўсё, наперад.

(8) – Вы сустрэлі знаёмую дзяўчыну (хлопца), якая (які) ня супраць згуляць у шахматы. Кіньце кубік: няцот – аблом, бацькі дома, ідзіце далей; цот – бацькі на дачы, прапусьціце адпаведна хадоў.

(9) – Стральнулі «модную» папяроску. Кіньце кубік: 1-5 – ідзеце й паліце далей; 6 – вам падсунулі хэш! Вярніцеся на 2 хады й балдзейце 1 ход.

(10) – Праходзіце каля банкамату. Кіньце кубік: 1-5 – праходзіце міма; 6 – раптам банкамат задрыжэў, запыжыўся й выплюнуў кругленькую суму. Ідзеце на бліжэйшы піўняк.

P – Піўняк. Чаму б не наруліць літар-другі півасіку. Для пачатку прапусьціце 1 ход. Каб выйсьці зь піўняку, трэба выкінуць 6 костак. Потым кіньце кубік яшчэ раз і рухайцеся адпаведна выкінутым косткам.

➡ – А нахера вам вучыцца? Зрабіце 1 крок да бліжэйшай «кропкі» і кульніце пару куфляў. Далейшы рух па Вялікім алькагольным коле супраць стрэлкі гадзіньніка.

M – Станцыя мэтро. Вы ж зусім забылі! У Вас страла на Трубе! Хуценька на «Цэнтральны»! Далейшы рух па Вялікім алькагольным коле супраць стрэлкі гадзіньніка.

⊗ – Зайшлі ў кусты памачыцца. Раптам – патруль, аблава... Кіньце яшчэ раз кубік: цотнае – вас замялі, прапусьціце 1 ход; няцотнае – вам удалося ўцячы, вярніцеся адпаведна выкінутым косткам.

Wc – Легальны й камфортны дабл. Аднак у вас праблемы з аховай. Кіньце яшчэ раз кубік: цотнае – вас не пусьцілі, ідзіце наперад шукаць месца памачыцца адпаведна выкінутым косткам; няцотнае – вам удалося прайсьці, прапусьціце 1 ход.

40 – Наклёўваецца невялічкая бухалаўка на рэдакцыі газэты *Навінкі*. Вы пабеглі па бухло. Дадатковы ход па Вялікім алькагольным коле. Калі выкінулі 6 костак – вярніцеся на рэдакцыю й прапусьціце ход.

STOP – На плошчы Я.Коласа адмарозкі зноў учынілі мітынг. Вас замялі ў мянтуру. Кіньце яшчэ раз кубік. Прапусьціце колькасьць хадоў адпаведна выкінутым косткам.

X – Вяртаецеся на пазначаную колькасьць хадоў назад.

X – Ідзеце на пазначаную колькасьць хадоў наперад.